Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 8 красавіка 1933 г.

№ 8.

Год 1-шы


# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.


***

Браты, браты! За вёслы сьмела
I моц усю — узмахам рук!
Самім сабе мы толькі верым,
Плывем — з цямры, жуды і мук...

Ўвесь гарт душы ў адно жаданьне,
Агонь вачэй — у хмараў муць!
З віхрамі сьцяўшыся ў змаганьні,
Кладзем вясьлярцы новы пуць.

Свае цярпеньне захаваем
I боль ня выпусьцім з грудзей.
Жывем ня тым, што сёньня маем:
Жывем для прышлых сьветлых дней.

Хай бура сьлепіць нашы вочы, —
Паставім твар і грудзі ей.
Хай згінем лепш ў змаганьні творчым,
Чым жыць жыцьцём за ноч цямней!

М. Машара.

## Асноўнае пытаньне.

У папярэднім нумары нашае часопісі, пасьвячоным агульна-беларускаму нацыянальнаму сьвяту, мы, з увагі на ўрачысты настрой у нашым грамадзянстве ў гэты сьвяточны дзень, зьмясьцілі карэспандэнцыю з Пружаншчыны ў справе спыненьня выкладу беларускае мовы ў дзяржаўнай школе, не абгаварываючы гэтага балючага і крыўднага для нас зьявішча. Цяпер варочаемся да гэтае справы.

Факт, аб якім піша наш карэспандэнт, запраўды-ж зьяўляецца глыбака абураючым, калі ўсё адбылася так, як нам наказуюць. Паводле слоў карэспандэнта, у дзяржаўнай народнай школе ў в. Бакунох некалькі гадоў выкладалася беларуская мова. На выклад яе вызначалася вельмі мала часу: усяго па тры гадзіны ў тыдзень. Але і з гэтага беларускія дзеці шмат карысталі, навучаючыся добра чытаць і пісаць пабеларуску ды гэтак атрымліваючы магчымасьць карыстацца скарбамі роднае беларускае культуры, пераказанымі ў друкаваным слове. Але вось неўспадзеўкі ў сярэдзіне школьнага году — па загаду, як кажуць, вышэйшае школьнае ўлады — выкладаньне беларускае мовы спынена. I мала гэтага: калі бацькі зьвярнуліся да школьнага інспэктара ў Пружане з просьбай на пісьме, каб выклад беларускае мовы ў іх школе быў узноўлены, той ня толькі не здаволіў гэтае слушнае просьбы, ня толькі ня даў на яе навет якога-небудзь адказу пэтэнтам, а папросту зьвярнуўся да паліцыі з просьбай распачаць „доходзэне" аб тым, хто быў ініцыятарам паданьня просьбы ды хто яе пісаў, як быццам законны і слушны паступак бацькоў быў нейкім „праступленьнем". I паліцыя, ня гледзячы на яўную нязгоднасьць становішча пана школьнага інспэктара з законам, выпаўніла ягоную просьбу і пачала проста запалохіваць сялян, цягаючы іх на нічым не абаснаваныя „баданьні", пры чым солтыса клікалі ў гэтай справе ажно ў староства ў Пружану.

Мы з усей рашучасьцяй мусім сцьвярдзіць, што паступаньне як школьных, так і паліцэйскіх уладаў у Пружане, — калі ўсё было так, як нам пішуць, — зьяўляецца ад пачатку да канца незаконным. Пан школьны інспэктар, які пэўне-ж ведае аб існаваньні дэкрэту пана Прэзыдэнта, забараняючага языковыя зьмены ў школах у працягу сямёх гадоў, і хіба ня раз карыстаўся ім, калі беларусы трэбавалі замены польскае мовы беларускай, цяпер нарушыў гэты дэкрэт на карысьць мовы польскае і на шкоду беларускае. А паліцэйскія ўлады незаконна распачалі „доходзэне" проці паступку бацькоў, які зьяўляецца зусім законным і ні ў якім выпадку ня можа надлягаць перасьледаваньню.

Мы публікуем гэты факт з тэй думкай, што вышэйшыя ўлады зьвернуць увагу на гэты аж залішне яркі выпадак незаконнага паступаньня адміністрацыі на шкоду беларускага народу, — выпадак, які можа выклікаць у беларускіх масах уражаньне, што быццам законы маюць абязываючую сілу толькі тады, калі гэта карысна для пэўнай групы грамадзян гаспадарства, і неўспадзеўкі губляюць гэту сілу, калі справа йдзе аб

карысьць беларусаў. І мы з нецярпліваосьцяй будзем чакаць, якія крокі будуць зроблены вышэйшымі ўладамі, каб разьвеяць прыкрае ўражаньне ад інцыдэнту ў Бакунох і на дзеле пераканаць беларускае насяленьне, што законы ў Польшчы пісаны такжа і для аховы ягоных правоў.

# Гаспадарчы аддзел.

## Даглядайма свае сады.

Найпільнейшыя працы ў садзе, да якіх гаспадар павінен прыступіць раньняю вясною, ёсьць наступныя:

1. Перасаджваньне пладовых дрэваў і кустоў, а таксама закладаньне новых школак.

Пры перасаджваньні трэба дрэўцы з зямлі выймаць асьцярожна, каб не паадрываць тонкіх карэньчыкаў; асабліва гэта важна для груш. Перад пасадкай дрэўца карысна намачыць яго карэньне ў разьмешанай з вадою кампостнай зямлі.

У школках, з якіх дрэўцы маюць быць перасаджаны ў восені, трэба паабразаць карэньне ўжо цяпер. Дзеля гэтага на пэўным адступе ад пня запускаецца ў зямлю наўкола глыбака лапата. Дзякуючы такім захадам дрэўцы да восені будуць мець болей дробненькага карэньня, а таксама лягчэй будзе выбіраць іх з зямлі.

2) Калі дрэвы да гэтае пары не ачышчаны ад сухіх галінаў, ваўчкоў, загушчаючых галінаў, то трэба да гэтае працы зараз-жа прыступіць; адначасна трэба ачышчаць і пень ад сухое кары і моху.

3) З распушчэньнем пупышкаў пачынаецца пара шчапленьня. Асабліва нельга пазьніцца з шчапленьнем костачкавых дрэўцаў.

4) Мейсцы на пнёх, пашкоджаныя ад марозу ці хваробаў, а таксама ўсе іншыя раны трэба ачысьціць нажом да здаровага мейсца і замазаць садовую мазьзю (для гэтае мэты можа служыць звычайная гліна, зьмешаная з кароўім калам).

5) Калі зярняты дрэў ня былі засеяны з восені і цэлую зіму праляжалі ў паграбе ў зямлі, то іх можна засеяць цяпер.

6) Калі з восені не працярэблены малінънік, то гэта трэба зрабіць зараз. Сьцеблы, на якіх летась былі ягады, вырэзваюцца цалком, а сьцеблы - адналеткі скарочваюцца.

7) Жадаючы памножыць кусты агрэсту, парэчак і т. п., трэба ў гэты час паразаць найлепшыя аднагадовыя веткі і паўтыкаць іх у зямлю; пры зразаньні галінак трэба рэзаць так, каб з аднагадовым гонам было адрэзана трохі дзерава і двухгадовага, бо тагды лепей разьвіваюцца карані.

Апрача ўсяго вышэйпададзенага, гаспадар павінен зьвярнуць пільную ўвагу на барацьбу з рознымі шкоднікамі пладовых дрэваў. Перш за ўсё сухое лісьце, якое засталася вісець на дрэвах, а таксама і тое, што засталася пад дрэвам, кару саскрэбленую з пнёў, мох і г. д, — трэба да-чыста сабраць і спаліць. Таксама трэба зразаць і паліць галінкі, на якіх ёсьць абручыкі з яечак садовага шаўкапрада-калцавіка (т. зв. зязюліны сьлёзы). На пнях і таўсьцейшых галінах могуць быць жоўтыя кучкі яечак непарыстага шаўкапрада. Іх таксама трэба зьнішчыць ці то саскрабаўшы і спаліўшы на вагні, ці памазаўшы заражаныя месцы нафтаю, зьмешанаю з дзёгцем. Далейшым ворагам садовых дрэў ёсьць цьветаед (даўганосік); найлепшы спосаб барацьбы з гэтым шкоднікам — гэта абтрасаць дрэвы кожнае раніцы, пакуль яны не зацьвітуць. Абтрасаць трэба на посьцілкі, якія трэба падсьцілаць

# ЯДВІГІН Ш.

## (Антон Лявіцкі).

*Жыцьцё і літэратурная творчасьць.*

На працягу 10-ёх гадоў, якія прайшлі ад сьмерці Ядвігіна Ш., беларуская літэратурная крытыка, зрабіўшая за гэты час вялікія крокі ў сваім разьвіцьці, пасьвяціла пэўнае мейсца і ягонай творчасьці. Маем даволі паважную стацьцю М. Пятуховіча п. н. «Ядвігін Ш. (жыцьцё і літэратурная дзеяльнасьць)», надрукаваную ў «Запісках аддзелу гуманітарных навук» (Менск 1928 г., т. I, кніга 2) і артыкул А. Навіны п. н. «Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш,)», зьмешчаны ў зборніку літэратурна-крытычных стацей «Адбітае жыцьцё» (Вільня 1929). Апрача гэтага аб Ядвігіне Ш. знаходзім у «Гісторыі беларускае літэратуры» М. Гарэцкага, у «Хрыстаматыі новай беларускай літэратуры» д-ра Ігн. Дварчаніна, а таксама некаторыя дробныя ўвагі, датычучыя творчасьці Ядвігіна Ш., у «Нашай Ніве« (№ 7, 1910 г.), у «Вялікоднай пісанцы» (1914 г.), у «Беларускім Звоне» з 4. III. 22 г. і іншых.

Стацьця М. Пятуховіча ў частцы, дзе ён разглядае творчасьць Ядв. Ш., можа зьяўляцца добрым павадыром пры аналізе твораў пісьменьніка. Аднак, у біяграфічнай частцы стацьця гэтая вымагае паважнае коррэктуры. М. Пятуховіч карыстае бязкрытычна з успамінаў В. Лёсікавай і П. Бадуновай, у той час, як гэтыя крыніцы асабліва вымагаюць узброенага ў крытычны апарат вока. Асабліва гэта датычыць успамінаў Бадуновай, дзе шмат патэтычных слоў і няскрытае аднастароннасьці. У 1922 г. Бадунова піша, што: „Апрача некалькіх расказаў гумарыстычнага зьместу, сабраных у зборніку «Васількі», ды яшчэ другіх некалькіх апавяданьняў, з якіх «Гаротная» зьвярнула на сябе агульную ўвагу, беларускае грамадзянства нічога ня мае «прад сваімі вачыма з яго твораў».

Дзякуючы гэтаму някрытычнаму адно-

пад дрэвы, каб апаўшыя жучкі можна было сабраць і зьнішчыць.

Калі яечак шкоднікаў не ўдалося зьнішчыць тым ці іншым спосабам, то тады проціў самых шкоднікаў можна ўжыць сродкаў хімічных. Найбольш пашыраным у апошнія часы сродкам супраць усіх садовых шкоднікаў-казулек ёсьць парыжская зелень (арсэнан медзі). Парыжскаю зеленьню скрапляюцца распусьціўшыяся дрэвы. Што-ж тычыцца гушчыні рашчыны парыжскае зелені, то яе бярэцца каля 50 грамаў на 100 літраў вады. Таксама добрым сродкам можа быць наступны адвар: бярэцца 1 фунт цякучага зялёнага мыла, да гэтага дадаецца 1 фунт сярчанага цьвету або сярчанае вантробы (heppar sulphuris), два фунты палыну, два фунты звычайнага тытуну, два фунты ліосьцяў чорнага бэзу (сьвежых або сухіх). Можна таксама яшчэ дадаць ядавітых грыбоў 2 фунты. Наагул трэба сказаць, што, калі аднаго якога-небудзь з вышэйпададзеных матэрыялаў нестае, то адвар усёж-такі будзе добрым і яго трэба рабіць. Адвар прыгатаўляецца з вышэйпададзенай колькасьці матэрыялаў такім спосабам, што гэтыя матэрыялы заліваюцца 12-ма гарцамі гарачае вады і пакідаюцца стаяць, аж пакуль добра не размокнуць. Калі адвар гатовы, тагды яго трэба працадзіць. Можна таксама прыгатаваць адвар проста гатаваньнем патрэбных матэрыялаў.

Прыгатаваным тым ці іншым спосабам адварам трэба разы два, а то і больш апрыскаць карону і пень, пакуль яшчэ дрэвы не зацьвілі. Калі дрэвы цьвітуць, то акрапляць іх тады ня можна.

Для барацьбы-ж з хваробамі садовых дрэваў, а асабліва з пархамі ці расою, ад якое потым зьяўляюцца чорныя плямы на плаход, ужываецца бардоская жыжка. Для прыгатаўленьня апошняй бярэцца 1 кілёграм сьвежай паленай вапны на 50 літраў вады. Апрысківаньне бардоскай жыжкай трэба праводзіць разы тры з раньняе вясны.

Для барацьбы з рознымі шкоднікамі, якія ня лётаюць, а лазяць, можна ўжыць спэцыяльных ліпкіх пасаў (як на мухі), якімі абкручваюцца наўкола пні дрэваў.

С. А.

## Цікаўныя і карысныя рэчы.

**Цуды нашых часоў.** У нашы часы посьпехі хірургіі робяць запраўдныя цуды, аб якіх калісьці дый навет цяпер тварыліся і творацца веруючымі рэлігійныя легенды.

Ня кажам ужо аб „старых“ ужо дасягненьнях амэрыканскіх дантыстаў, якія вырываюць цярплівым пацыентам зубы, навет зусім здаровыя, папраўляюць іх, каб былі роўныя ды прыгожыя, а пасьля ўстаўляюць назад — раўней, чым былі дагэтуль. Ня кажам аб тварэньні з касьцей новых суставаў, аб „перасадцы“ кавалкаў скуры з аднаго месца цела на другое, аб тварэньні такім чынам новых насоў, аб рабленьні штучна малых і прыгожых насоў з вялікіх ды брыдкіх. Ня кажам і аб тым, што сучасныя хірургі, усыпіўшы хворага, запраўды-ж рэжуць яго на кускі, а пасьля нанова сшываюць, паправіўшы й залатаўшы, што трэба. Апэрацыі над самымі дэлікатнымі і важнымі для жыцьця органамі: вантробай, ныркамі, навет сэрцам і мозгам — цяпер на чарзе дня навет у правінцыяльных бальніцах і ў прыватных хірургаў. Мала таго — найнавейшыя хірургічныя апэрацыі запраўды-ж пачынаюць рабіцца падобнымі да цудаў.

Нядаўна ў Штокгольмскай бальніцы зроблена была хірургічная спроба... „ускрашэньня памершае“. Малады швэдзкі хірург Краффорд разрэзаў нябожчыцы грудную

шаньню да вышэйуспомненых успамінаў, Пятуховіч усьлед за аўтаркамі іх робіць памылкі.

Так напр. ён піша, што Ядвігін Ш. радзіўся ў 1869 г., сядзеў у Петрапаўлаўскай крэпасьці, быў на мэдыцыне, памер у сакавіку і т. д. У другой частцы стацьці Пятуховіч абмінае некаторыя важныя мамэнты ў творчасьці пісьменьніка, як хоць-бы, напр., водгаласкі шляхоцкага романтызму ў яго творах і т.д. Гэта часткова папаўняе стацьця А. Навіны, якая дае агульны агляд яго ідэолёгіі і твораў.

Гэтага, бязумоўна, мала. Асоба Ядвігіна Ш., а таксама й яго творчасьць — належна яшчэ не асьветлены. Ня вызначана таксама выразна мейсца яго ў беларускай літэратуры. У гэтым нарысе жыцьця й галаўнейшых мамэнтаў творчасьці Ядвігіна Ш. я не прабую папоўніць усе пустыя мейсцы ў беларускай літэратурнай крытыцы, датычачай гэтага прадмэту, аднак зазначаю, што выяўленьне ўплыву іншых пісьменьнікаў на яго творчасьць, уплыву народнае поэзіі уплыву яго грамадзкае ідэолёгіі на творчасьць, псыхолёгіі творчасьці Ядвігіна Ш. урэшце таго, у якой меры творы Ядвігіна могуць служыць матэр'ялам для псыхолёга і, што вельмі важна, галоўных мамэнтаў у яго жыцьці, — усё гэта, бязумоўна, кінула-б новае сьвятло як на постаць Ядвігіна Ш., так і на яго творчасьць. Без выяўленьня гэтых і раду іншых мамэнтаў Ядвігін Ш. будзе яшчэ ня зусім абрысованы, творы яго яшчэ будуць разам з высокім духовым здаваленьнем будзіць часта зьдзіўленьне.

Напачатку скажу, што Ядвігін Ш. належыць да катэгорыі тых пісьменьнікаў, творчасьць якіх трэба лічыць *закончанай*. Творчасьць Ядвігіна Ш. закончаная (хоць не адналітая, ня суцэльная), так, як закончаная творчасьць Д.-Марцінкевіча, Я. Купалы, Фр. Аляхновіча. Закончаная яна ў тым сэньсе, што Ядвігін Ш. прайшоў эволюцыю свайго таленту да канца. Усё, што ён меў сказаць, як прадстаўнік свайго часу, ён сказаў. Дзе-

клетку, адкрыў сэрдца, шляхам далікатнага масажу (націраньня) узнавіў яго біцьцё, зашыў усё нанова, і — памершая ўжо кабета жыве ізноў, як быццам і не памірала! І такіх апэрацыяў ён зрабіў пасьпешна не адну, але — восем...

Ня горшы цуд робіць праф. Філатаў у Адэсе. Ен таксама робіць эвангельскія цуды павароту зроку сьляпым. Большасьць сьляпых ня бачаць не таму, што ў іх няма ўнутры вока ўсяго, што патрэба дзеля бачаньня, але таму, што так-званая „рагавая балонка" на зрэнку мутнее, робіцца непразрыстай. Таму даўно спарадзілася ў хірургаў думка: ці ня можна неяк зрабіць гэтую балонку празрыстай? Як ведама, памутненьне гэтае балонкі, так-званую „катаракту", зьнімаюць ужо даўно. Але сьляпых зусім хірургічна „прасьвяціць" дагэтуль не ўдавалася. Толькі нядаўна пражскі хірург Эльшынг, як і адэскі Філатаў, пасьпешна вырашыў гэтую задачу.

Яны перасаджываюць з вока якой іншай жывёлы празрыстую „рагавую балонку" замест мутнае балонкі сьляпога, і вось — з 100 апэраваных праф. Эльшынгам 10, а з 96 сьляпых, апэраваных праф. Філатавым ажно 24 сьляпых пабачылі сьвет...

Пасьля іх такія апэрацыі пачалі рабіць ужо і іншыя хірургі. Такім чынам, тыя легенды аб цудах аздараўленьня сьляпых і ўскрашэньня мёртвых, аб якіх расказываецца ў сьвятых кнігах, зьяўляюцца хіба-ж хутчэй як быццам прарочым прадбачаньнем веры ў магчымасьць такіх цудаў, зьдзейсьніць якія пакліка्ны запраўды-ж божскі розум чалавека — шляхам навуковае веды.

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Абход сьвята абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі.** У суботу, 25 сакавіка, віленскае грамадзянства вельмі ўрачыста адсьвяткавала 15-я ўгодкі незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Раніцай адбыліся: імша ў касьцеле сьв. Мікалая і малебен у гімназіяльнай Пятніцкай царкве. У касьцеле сказаў сьвяточнае казаньне кс. Рэшаць, а ў царкве—сьв. Кульчыцкі; у царкве ж Эвангельле чытаў пабеларуску іераманах Савацій, намесьнік сьв.-Духаўскага манастыра. Абвешчаны ж хадэцыяй малебен у Прачысьценскай царкве не адбыўся.

Пасьля царкоўнае ўрачыстасьці зладзілі сваю ўрачыстасьць вучні Беларускае Філіі Дзяржаўнае Гімназіі ім. Словацкага — пад кіраўніцтвам свайго вучыцеля беларускае літаратуры В. Грышкевіча. Вучнямі былі прачытаны два рэфэраты, зьвязаныя з урачыстым днём, пасьля чаго адбылася дэклямацыя беларускіх вершаў, а школьны хор прапяяў рад беларускіх песьняў.

У 7 гадзін вечара адбылася ўрачыстае паседжаньне Таварыства Беларускае Асьветы ў памяшчэньні Т-ва, якое, на жаль, не дало магчымасьці сабраць большае лічбы гасьцей, жадаўшых быць на абходзе, з прычыны цеснаты. Паседжаньне адчыніў старшыня Т.Б.А гр. С. Кароль, які даў слова ініцыятару і тварцу акту аб незалежнасьці гр. А. Луцкевічу. У кароткай прамове гр. Луцкевіч адзначыў, што, хоць збудаваць сваю незалежную дзяржаву беларусам не ўдалося, аднак

---

ля гэтага заданьне крытыка тут і лёгкае, і адначасна цяжкое: трэба выкрыць усе ўплывы, ішоўшыя ў кірунку пісьменьніка, усе сьветлацені яго творчасьці, каб належна ацаніць яе. Праўда, некаторыя творы дагэтуль не надрукаваны. І ўсё-ж такі, ня гледзячы на магчымасьць, зрэштай сумліўную, апублікаваньня гэтых твораў, трэба лічыць творчасьць Ядвігіна Ш. закончанай. Аб творах ненадрукаваных мы ведаем, што паходзяць з першага пэрыяду творчасьці Ядвігіна Ш., пэрыяду спробаў. Ванда Лёсікавая, дачка Ядвігіна Ш., у сваіх успамінах*) аб бацьку гаворыць аб гэтых творах наступнае: «часьць літэратурных твораў таго часу нябожчык хацеў перарабіць, часьць іх лічыў зусім нявартымі ўвагі і дзеля гэтага ня меў іх нават запісанымі». Гэтыя творы, трэба думаць, паслужылі-б да выкрыцьця новых доказаў ідэйнай лучнасьці Ядвігіна Ш. з шляхоцкімі рамантыкамі, а ў першую чаргу — уплываў Д.-Марцінкевіча.

—·—

Ядвігін Ш.. запраўднае прозьвішча якога было *Антон Лявіцкі,* радзіўся ў 1866 г. М. Гарэцкі (ў «Гісторыі беларускай літэратуры», 1924 г.) падае якраз гэтую дату нараджэньня Ядвігіна Ш., у тойчас, як М. Пятуховіч перасоўвае яе на 1869 г. а д-р І. Дварчанін («Хрыстаматыя») — аж на 1870 г. Гэтыя дзьве апошнія даты трэба лічыць няправільнымі. Дата М. Пятуховіча—гэта найпраўдападобней друкарская памылка: 9 замест 6. Як доказ таго, што Ядвігін Ш. радзіўся ў 1866 г., маем запіс веку пісьменьніка ў кнізе хворых Літоўскае Клінікі ў Вільні за 1922 г., паводле якой Ядвігін Ш. мае 55 гадоў. А гэты век падаў пэўне-ж сам хворы пісьменьнік. Такім чынам год нараджэньня яго прыпадае на 1866. Бацька Антона Лявіцкага, Ян Лявіцкі, быў шляхціцам па паходжаньню, каталіцкага веравы-

*) Друкаваныя ў зборніку „Адраджэньне" 1922 г.

**гэта ня значыць, што і ў будучыні гэта ня ўдасцца: ня толькі ў нашай сьвядомасьці, але і на міжнародавай арэне ідэя незалежнае Беларусі не памерла, і толькі-што нямецкія і італьянскія фашысты, творачы свае пляны будучага палітычнага падзелу Эўропы, разглядалі Беларусь, як аднаго з незалежных сяброў будучага саюзу ўсходня-эўрапэйскіх дзяржаў. Далей прамаўлялі гр.гр. Астроўскі і Трэпка, закранаючы пытаньне аб прычынах няўдачы і выказваючы тое вялізарнае значэньне, якое па сягоньняшні дзень мае акт 25 сакавіка 1918 году: яго ў іншым мейсцы сьвяткуюць сягоньня навет тыя людзі, якія заўсёды былі далёкія ад незалежніцкае ідэолёгіі... Паседжаньне было зачынена гр. Каралём, пасьля чаго адбылася скромная супольная гарбатка, у якой прыняло ўчасьце звыш 50 асоб, у тым ліку — прадстаўнікі праваслаўнага духавенства. На гарбатцы ўчасьнікі Усебеларускага Кангрэсу і абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі дзяліліся з гасьцьмі сваімі ўспамінамі аб гэтым акце.**

**У той-жа вечар адбылася акадэмія, зладжаная беларускай хадэцыяй супольна з ТБШ у літоўскай салі „Апольлё“. Хадэкі чамусьці злучылі абход 15-лецьця абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі з нібы-то 70-лецьцем існаваньня беларускае прэсы, прыпісываючы павадыру польскага паўстаньня 1863 году Костусю Каліноўскаму выдаваньне першае беларускае газэты „Мужыцкая Праўда“. Запраўды-ж ніякае газэты Каліноўскі не выдаваў, а друкаваў толькі праклямацыі пад супольным загалоўкам „Мужыцкая Праўда“, заклікаючы ў іх беларусаў, каб слухаліся польскага паўстанчага ўраду і ішлі біць расейцаў. Каму патрэбна была гэтая містыфікацыя, — ня ведаем; але, дзякуючы злучэньню абходу незалежнасьці з абходам у чэсьць Каліноўскага, хадэцкая ўрачыстасьць ператварылася ў польска-беларускае яднаньне на груньце асобы супольнага гэроя Каліноўскага. Прадстаўнік польскага грамадзянства гр. Выслоух у сваей прамове заклікаў сабраных на ўрачыстасьці, каб ішлі па сьлядох Каліноўскага да збудаваньня польска-беларускае фэдэрацыі. Пасьля акадэміі ў адным з рэстаранаў адбыўся банкет, на якім арганізатары акадэміі частавалі сваіх гасьцей.**

**Прэса адзначае чысьленае ўчасьце ў акадэміі літоўскага і украінскага грамадзянства, а также прывітаньні, прысланыя нямецкімі пасламі польскага Сойму.**

**У Бацькоўскім Камітэце. З прычыны таго, што ў апошніх часох стан здароўя гр. Антона Луцкевіча, старшыні Бацькоўскага Камітэту Беларускае Філіі Дзяржаўнай Гімназіі ім. Ю. Словацкага ў Вільні, значна пагоршыўся (ён хворы на сэрца), і дактары загадалі яму абмежыць сваю працу, — грам. Луцкевіч пару тыдняў таму назад адмовіўся ад старшынства і ўчасьця ў прэзыдыуме К-ту.**

**Скліканая на сход на 5 сакавіка Рада К-ту дзеля выбару новага старшыні і абгавораньня справы дапамогі незаможным вучням, якім пагражае спыненьне навукі з прычыны неаплаты належных Гімназіі грошы, не адбылася, бо... бацькі не сабраліся.**

**Ахвяры для Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча. У Музэй паступілі наступныя рэчы: 1) ад грам. Смаля (Шчорсы, Наваградчына) — 1 медная манэта; 2) ад гр. Пётры Рашкевіча (Бакшты, Валожынск. пав.) — 1 медная манэта; 3) ад гр. Будзькі — 2 манэты; 4) ад Украінскага Нацыянальнага Музэю ў Львове — выданьне Іл. Сьвенціцкага „Опис рукописів“, Львів 1933 г. Кіраўніцтва Музэю выказывае ахвярадаўцам шчырую падзяку.**

———

...знаньня. Пэўны час бацька Лявіцкага быў афіцэрам расейскае арміі. Спачуваючы паўстаньню 1863 г., аб выбуху якога ён ведаў, ён падаўся ў адстаўку й затрымаўся на нейкі час у маёнтку Дабосьня, у Магілёўшчыне, дзе быў кіраўнічым маёнтку. Тут, як падае М. Пятуховіч, радзіўся Антон Лявіцкі. У Дабосьні, а пасьля ў Пяршаях (Ашмянскага павету), дзе бацька служыў падлоўчым у маёнтку графа Тышкевіча, вочы будучага пісьменьніка пабачылі беларускае неба. Пасьля бацька перабраўся ў фальфарак Карпілаўка (ў Вялейскім павеце), які купіў ужо ў 1866 г. У гэтых мяйсцох назоў Карпілаўка спатыкаецца даволі часта (ёсьць фольваркі й вёскі Карпілаўкі). Карпілаўка, у якой прышлося правесьці свае дзіцячыя гады Ядвігіну Ш., знаходзіцца ў 57 в. ад Вялейкі пры паштовай дарозе з м. Ілы ў Радашкавічы. Дом Лявіцкіх стаяў сярод садовых і іншых дрэў, навокала воддаль расьлі старыя дубы й ліпы. Дом, у якім росі гадаваўся малы Антон Лявіцкі, меў сем пакояў. Тут, у Карпілаўцы, правёў будучы пісьменьнік сваё дзяцінства. Тут ён пазнаў блізка сялян і фальварачную шляхту. Фальваркі на Беларусі былі ў жывой сувязі з вёскай: і сам быт, і традыцыі романтызму зьбліжалі шляхту да народу. Сутычнасьць малога Антона Лявіцкага з народам мела вялікі ўплыў на будучую творчасьць Ядвігіна Ш., як беларускага пісьменьніка. Тыпы, якія пасьля спатыкаем у яго творах, ён, бяссумліўна, бачыў, або чуў аб іх, яшчэ як быў хлапцом. Знаходзячыся ў сутычнасьці з сялянствам, ён чуў хіба й народныя казкі, якія пасьля выкарыстае ў сваіх творах.

(Працяг будзе).

*Хведар Ільяшэвіч.*

———

## На правінцыі.

Крыху аб супрацоўніцтве (Бяніца, Маладзечанскі пав.). Тутэйшыя польскія культурна-асьветныя арганізацыі, якія безумоўна зложаны з тутэйшай беларускай масы за вынаткам кіраўнікоў, пры праводжаньні „прамені“ культуры многа аб чым забываюцца на шкоду так „падсьмяглае“ ў духовым жыцьці беларускае вёскі.

Перадусім ладзяць спэктаклі толькі польскія (Бяніца, Клачкова, Залесьсе і др.) і то толькі для т. зв. тутэйшай „сьмятанкі“ ці прасьцей — самі для сябе. Для культурна-асьветных арганізацыяў хіба так не выпадае, бо перадусім трэба культуру несьці ў цемень нашай вёскі, якая даўно на гэтае сьмягне, і значыцца ў тутэйшай мове. Што праўда, тутэйшая сьвядомая беларуская моладзь трэбуе гэтага, але заціскае „нэгатыўнае“ аднашаньне „чыньнікув мяродайных“.

Трэба, каб Цэнтр Т. Б. А. і др. прышлі нам з дапамогай у гэтай справе.

Юупрэ.

**Ад Рэдакцыі.** Аб тым, каб беларускія арганізацыі супрацоўнічалі з польскімі, мы чуем вельмі шмат (прыклад — Т. Б. Ш.), але, на жаль, каб на такое супрацоўніцтва ішлі польскія арганізацыі, неяк ня чуваць. Ад іншых нашых карэспандэнтаў мы чуем жалабы на тое, што у польскіх бібліатэках пры „сьветліцах“) а гэткіх у Віленшчыне і часьці Наваградчыны ёсьць ажно каля 3,000!) ня знойдзеш нідзе ніводнае беларускае кніжкі ані газэты. Вось табе і супрацоўніцтва! Гэтак далей не павінна быць, і кожная польская бібліатэка для вёскі мусіць мець і беларускія кніжкі, калі яна існуе ня толькі для жменькі ўрадоўцаў ды асаднікаў-палякоў.

---

# Мімаходам.

Ізноў—на наш вялікі жаль — „Беларуская Крыніца“ забірае нам час і месца, стараючыся сапхнуць наш часопіс з шырокага шляху чыста культурнай працы на бездарожжа „палітычнай“ палемікі. Але няма рады.

У папярэднім нумары „Р. Кр.“ мы падалі, як „сэнсацыю“, вестку аб тым, што нібыта Гітлер — разам з Мусоліні — маюць „тварыць вялікую саюзную дзяржаву, складзеную з Украіны, Беларусі і Літвы“.

Галоўная мета іх у гэтым, як падчырківалі мы,—„барацьба з бальшавіцкай Расеяй, зьніштажэньне якой Гітлер лічыць канечным ня толькі для Нямеччыны, але і для ўсяго сьвету“. Да гэтага мы дадалі, паводле прэсавых вестак, што „быццам“ у гэтую сваю акцыю Гітлер уцягівае ня толькі „украінскіх германафілаў“, але і „прадстаўнікоў беларускага студэнцтва ў Бэрліне“. І пры гэтым мы выразна адзначылі нашыя сумлівы аб праўдзівасьці блізу гумарыстычнае весткі аб „асабістым прыйме прадстаўнікоў беларускіх студэнтаў у Бэрліне Гітлерам“. Мэта нашае заметкі для кожнага здаровага галавой беларуса — зусім ясная: мы хацелі лішні раз паказаць і сваім і чужым на ўсьцяж узрастаючую сілу вялікае ідэі незалежнасьці Беларусі, ідэі, якая робіцца ўжо сталай вартасьцю на груньце міжнародавай палітыкі Эўропы.

І вось за гэтую заметку кіраўнікі „Бел. Крыніцы“ вінавацяць нас ні больш, ні менш, як... у „даносе па беларускае студэнцтва ў Бэрліне“!!!

Ня ведаем, запраўды, з чаго тут больш дзівіцца: ці з дурноты гэтых „абаронцаў“ беларускага студэнцтва ў Бэрліне, ці з іх зласьлівасьці?

Толькі-што адно з тэлеграфных агенцтваў яшчэ раз падчыркнула, што на чале гэтай усходняй акцыі Гітлера пастаўлены „ведамы сваімі процісавецкімі выступленьнямі Розэнбэрг, які і зьяўляецца тварцом (!) гэтае ідэі стварэньня фэдэратыўнай дзяржавы Літоўска-Беларуска-Украінскай — шляхам адарваньня Украіны і Беларусі ад Савецкага Саюзу“.

Дык варта запытацца ў „быстрых розумам“ Катонаў з „Крыніцы“: каго-ж тут яны самі так спужаліся ды кім страшаць і ад каго бароняць беларускіх студэнтаў? Хіба ад Г. П. У.? Бо-ж польская дэфэнзыва пэўне ня будзе тасаваць рэпрэсіяў да студэнтаў, якія імкнуцца да „адарваньня“ Беларусі ад... Саветаў!

Дык — ці-ж „Бел. Крыніца“ менш, як мы, сумляваецца ў гумарыстычнасьці візыты беларускіх студэнтаў у Гітлера, што трэба аж так „удала“ бараніць іх ад нашага „даносу“??.

Вось запраўды-ж: „услужлівый... Адам опаснее врага“!..

---

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

**Спажыўная дапамога.** 4. IV адбылася паседжаньне Рады Міністраў, на якім была паміж іншым прынята пастанова аб спажыўнай дапамозе насяленьню „Усходніх Крэсаў“, гэта значыць — і беларускаму насяленьню Польшчы. Беларуская вёска павінна гэта выкарыстаць!

**Дзяржаўная дапамога на насеньне.** Дробныя земляробы маюць атрымаць дапамогу на вясеньнія засевы на суму каля 1 мільёну злотых. Усходнія ваяводзтвы ўжо пачалі карыстацца з гэтага крэдыту.

**Стан безрабоцьця.** За апошні тыдзень лічба безработных у Польшчы зьменшылася на 2 з гакам тысячы. Але яшчэ зарэгістраваных толькі безработных у Польшчы налічваецца 287.000.

**Дар паслу Славэку.** Былы прэм'ер, а цяпер старшыня Беспартыйнага Блёку Валеры Славэк атрымаў ад „людовай групы“ Б. Б. ў дар — „сялянскі надзел“ у гістарычнай вёсцы Рацлавіцы.

## За граніцай.

**„Эўрапэйская дырэкторыя“ і справа перагляду трактатаў.** Нашыя чытачы ведаюць ужо, што ў апошні час па думцы Мак-Дональда і Мусоліні дайшло да ўтварэньня—у лоне Лігі Нацыяў і Канфэрэнцыі ў справе разбраеньня — сталага „паразуменьня“ ці „пакту даверу“ 4 вялікіх дзяржаў, якія маюць абгаварываць дый „узгадняць“ паміж сабой усе важнейшыя справы эўрапэйскай палітыкі — перад тым, як пусьціць іх „на вырашэньне“ Лігі ці Канфэрэнцыі. Як з слушным абурэньнем піша прэса ўсіх меншых дзяржаваў, гэтая „дырэкторыя“ 4 дзяржаў будзе фактычна вырашаць усе справы, а Ліга і Канфэрэнцыя толькі падпісываць гатовыя рашэньні. Доўга апіралася гэтай англійскай думцы Францыя, акая ў Лізе і на Канфэрэнцыі мае за сабой галасы сваіх саюзьнікаў—Польшчы і дзяржаваў Малай Антанты, а ў лоне „дырэкторыі“ будзе заўсёды пабіта галасамі Англіі, Італіі і Нямеччыны. Але ўрэшце уступіла пад націскам Англіі і Францыя. На паседжаньні 4. IV. Рада Міністраў Францыі з некаторымі засьцярогамі прыняла прапазыку Мак-Дональда і Мусоліні.

„Францыя, кажа пастанова Рады міністраў, гатова супрацоўнічаць над замацаваньнем міру поруч з Англіяй, Італіяй і Нямеччынай, бо гэтыя 4 дзяржавы нясуць найвялікшую адказнасьць за лёс Эўропы, як дзяржавы, маючыя сталыя месцы ў Радзе Лігі Нацыяў“. Гэтыя дзяржавы, кажа далей пастанова, „будуць шукаць супольных і згодных рашэньняў для ўсіх справаў у галіне ўзаемных адносінаў „эўрапэйскіх дзяржаў“. А калі справа якая будзе датычыць якой іншай дзяржавы, дык яна, як беспасярэдня заінтэрэсаваная, будзе паклікана (!) да ўчасьця ў нарадах „дырэкторыі“ ад самага пачатку“... Як ведама, з другога боку, Мак-Дональд у часе рымскай візыты ў Мусоліні апрацаваў з ім разам і праграму найбольш важных і палючых спраў, зьвязаных з „замацаваньнем эўрапэйскага міру“. Сярод іх на першым мейсцы стаіць справа перагляду трактатаў і граніцаў. „Плян Мусоліні“ і Мак-Дональда прадбачыць, як піша ўся эўрапэйская прэса, вельмі грунтоўны перагляд ды перадзел тэрытарыяльнага ладу „Вэрсальскай Эўропы“. Апроч „папраўкі“ польска-нямецкай граніцы на карысьць Нямеччыны, маюць быць „папраўлены“ грунтоўна валаданьні Румыніі і Югаславіі — на карысьць Вэнгрыі, Аўстрыі і Альбаніі.

---

**Канфэрэнцыя аб разбраеньні.** Канфэрэнцыя ў справе разбраеньня пастанавіла прыняць за падставу далейшай дыскусіі англійскі праект разбраеньня, а яго падрабязны разгляд распачаць пасьля вялікодных сьвятаў.

**„Разбраеньне“ на моры.** Пакуль у Жэнэве йдуць гутаркі аб „радыкальным разбраеньні на сушы, на моры й у паветры“, дзяржавы, асабліва-ж вялікія, навыперадкі будуюць ваенныя караблі і самалёты. Толькі сёлета спушчана ў ваду дый распачата будова — у чэсьць жэнэўскай канфэрэнцыі!—каля сотні новых ваенных караблёў усялякага тыпу, пачынаючы ад браняносцаў і канчаючы контрмінаносцамі ды падводнымі лодкамі.

**Вайна Гітлера з жыдамі.** Як ведама, асноўным пунктам ідэолёгіі Гітлера зьяўляецца ідэя „чыстакроўнай нямецкай расы“, да якой выключна павінна належаць нямецкая дзяржава. Усе іншыя расы: раманская, славянская, а перадусім жыдоўская, якія жывуць у Нямеччыне, ці якімі „занячышчана“ нямецкая кроў, павінны быць за ўсялякую цану зьніштожаны ці выкінены з Нямеччыны. Таму Гітлер сьмяротна ненавідзіць французаў, палякоў, а асабліва — жыдоў.

Дарваўшыся да ўлады, Гітлер распачаў выкананьне сваей праграмы якраз з жыдоў. „Вайна з жыдамі“ ідзе па ўсяму фронту—з нямецкай сыстэматычнасьцю і жорсткасьцю. Жыдоў б'юць, катуюць, арыштоўваюць. Жыдоўскі гандаль абвешчаны пад байкотам; жыды ўрадоўцы адным махам выгнаны з урадавых і самаўрадавых пасадаў у-ва ўсей Нямеччыне. Мала таго: забаронены жыдом блізу ўсе так-зван. „вольныя прафэсіі“ — адвакатаў, дахтароў, журналістаў і т. д. Пры гэтым такія гвалты робяцца ня толькі ў адносінах да жыдоў, але і да асобаў „жыдоўскага паходжаньня“, жыдоўскай „крыві“.

Мала, што гэтыя гвалты выклікалі пратэст і абурэньне ўсяго солідарна-чуючага і дзеючага жыдоўства. На гэты „крывавы байкот“ жыдоў у Нямеччыне жыдоўскія арганізацыі блізу ўсяго сьвету пастанавілі адказаць байкотам нямецкіх тавараў і вострай кампаніяй у прэсе.

Гітлер адразу пачуў сілу гэтай контракцыі і сьпярша пагражаў завастрэньнем байкоту і рэпрэсіяў, калі жыды ня спыняць сваей кампаніі заграніцай, а цяпер як быццам ужо сам ідзе на ўступкі, бо пачуў вынікі шаленства сваей акцыі, у першую чаргу — тую пагрозу гаспадарчай катастрофай, якую яна няўхільна мусіць выклікаць для Нямеччыны у часы і без таго гаспадарчага крызісу.

**Пагроза для Рапальлё.** Савецка-нямецкія адносіны ўсьцяж псуюцца. Абвешчанае Гітлерам „зьніштажаньне марксізму“ і... марксістаў ня спынілася перад савецкімі грамадзянамі і ўстановамі ў Нямеччыне. Арышты і вобыскі нават сярод радавых урадоўцаў у Нямеччыне, нятыкальнасьць якіх гарантавана Рапальскім трактатам, выклікалі страшэннае абурэньне ў чырвонай Маскве. Савецкая прэса кідае пяруны і маланкі на гітлераўскую Нямеччыну, якая фактычна ламае трактат. Асаблівае абурэньне выклікала ў Маскве „правакацыйнае“ назначэньне „партыйным камісарам“ над міністрам замежн. спраў ведамага Розэнбэргэ, „сьмяротнага ворага Саветаў і староньніка вайны з імі“, як пішуць „Известія“ (3. IV.).

Усё гэта можа давясьці да канчальнага разрыву паміж, як здавалася, зьвязанымі на-

век саюзьнікамі. Кожын лёгка зразумее, якія вялізарныя перамены ўва ўсім складзе сусьветнай палітыкі зрабіў-бы няўхільна гэты разрыў.

**Вялікія маневры ў БССР.** 7-га красавіка распачаліся пад кіраўніцтвам самога Варашылава вялікія манэўры войскаў БССР. Манэўры адбываюцца уздоўж польска савецкай граніцы на вучастку Менск—Полацак.

**Выбары прэзыдэнта ў Латвіі.** 4. IV. у Рызе адбыліся выбары прэзыдэнта Латвійскай Рэспублікі. З трох кандыдатаў: сучаснага прэзыдэнта Квесіса, высуненага „сялянскім саюзам", старшыні Сойму Кальнінша, выстаўленага соцыял-дэмакратамі, і камуністычнага пасла Віттэ, выбраны Альбэрт Квесіс, які атрымаў 52 галасы на 96 галасаваўшых паслоў.

**Японска-кітайская вайна.** Вайна Японіі проці Кітаю зусім не закончылася з заняцьцем Японіяй усей Манджуры і дый яшчэ і Джэхоля. Наадварот: побач з пасьпехамі растуць і японскія апэтыты. Японскія войскі пачалі пляновае заваяваньне Манголіі, з якой так сама мае быць створана новая „незалежная" дзяржава на ўзор Манджу Куо. Але — побач з тым ідзе далейшае тэрорызаваньне дый абяссіленьне Кітаю — шляхам акупацыі яго галоўных цэнтраў на поўначы: Пэкіну і Цянь-Дзіну, у кірунку якіх распачата таксама наступленьне; гэта значыць, што наступленьне ідзе ў глыб чыста і бясспрэчна кітайскай тэрыторыі.

Усяму гэтаму „спакойна" прыглядаецца чырвоная Масква, ня гледзячы на тое, што гэтая японская акцыя зусім выразна пагражае ўсяму расейскаму „Далёкаму Усходу".

# Куток сьмеху.

## Вось і паразумеліся!

На сёлетні абход сьвята незалежнасьці Беларусі, зладжаны ў Вільні хадэцыяй, пасол Ярэміч — дзеля вялікшае павагі — прывёз з Варшавы госьця: украінскага пасла. За такую ветлівасьць украінскі пасол захацеў аддзякаваць п. Ярэмічу і падчас акадэміі, прамаўляючы аб незалежніцкай ідэі беларусаў, пачаў гаварыць сабраным і аб... пану Ярэмічу! Што мае супольнага п. Ярэміч з незалежніцкай справай, гэтага, пэўне-ж, і сам ён ня мог-б сказаць,—дык тым большае было зьдзіўленьне сабраных у салі прыяцеляў п. Ярэміча. Але тут сталася нешта такое, чаго не прадбачыў ані п. Ярэміч, ані прывезены госьць.

Украінскі пасол, паміж іншым, сказаў, што „пасол Ярэміч гідно рэпрэзэнтуе Беларускі народ у Сойме ўжо шмат гадоў". Слова „гідно" паўкраінску значыць тое самае, што папольску слова „godnie" (значыць: дастойна), і палякі адразу зразумелі, якую думку маніўся выказаць прамоўца. Але большасьць беларусаў падумала, што „гідно" ёсьць тое-ж, што пабеларуску „агідна". Сярод іх пачаліся перашэптываньні: „Вось дык задаў Ярэмічу пытлю! Маладзец!". І пасыпаліся гучныя воплескі...

Украінскі-ж пасол у свой чарод зразумеў, што гэта беларусы дзякуюць яму за пахвалу „свайму" паслу, і ён паехаў (пасьля банкету) дамоў, глыбака пераканаены, што п. Ярэміч запраўды карыстаецца пашанай сярод беларускага грамадзянства...

Гэтак усе аказаліся здаволенымі, а найболей—пан Ярэміч.

Як ні як, а запраўды пашанцавала!

# Паштовая скрынка.

Гр. гр. **Забельле** ў Кульгаёх, **Курьяновічу** ў Салоным, **Калубацы** ў Есьманоўцаў, **Сымановічу** ў Мехаўшчыне, **Сьцебурану** ў Крывічох, **Рыбінскаму** ў Адамоўцы, **Клемантовічу** ў Рэчках, **Райчанку** ў Сямёнаўцах, **Божку** ў Сечках. Лісты Вашыя з адказам на нашую прапазыцыю атрымалі. Шчыра дзякуем за гатоўнасьць паслужыць поруч з намі справе роднай асьветы і культуры. Усе патрэбныя крокі будуць зроблены. Статут Т-ва і далейшыя інфармацыі высылаем.

— Усім асобам, заінтэрэсаваным у працы Т. Б. А. — адначасна з гэтым № 8 часопісу „Р. Кр." рассылаецца Статут Т-ва.

Сэкрэтарыят Т. Б. А.

Гр. **Глушыну** ў в. Рэпішча. Часопіс высылаем—шлеце падпіску, пашырайце газэту.

Гр. гр. **Кізіну** ў Каралевічах і **Маргайлюку** ў Ганейках. Вашыя лісты атрымалі—дзякуем. Пашукайце адпаведных асобаў.

Гр. **Гадзільле** ў Яськовічах. Чэсьць і слава Вашай моладзі за яе культурную актыўнасьць у галіне роднага тэатру. Грым і інш. лягчэй усяго хіба-ж можна дастаць на правінцыі ў аптэкарскай краме. З бібліатэкамі нашымі ў Навагрудчыне наагул трэба будзе крыху пачакаць: у першую пару працуем на Віленшчыне. Пашырайце газэту.

Гр. **Саўцу**, пошта Жудзялова. Ліст Ваш атрымалі—дзякуем. Шчыра цешымся, што часопіс наш „задаваляе вас на мясцох". Асабліва дзякуем за адрасы—усім высылаем газэту—хай шлюць падпіску. Споўнілі і другую просьбу.

**Гарасіму Прамяню.** Вершы Вашыя атрымалі. У іх ёсьць добрыя думкі, але форма вымагае яшчэ лепшае апрацоўкі. Пастараемся гэта зрабіць і зьмясьціць у бліжэйшых нумарох „Р. К.".

## Перачытаўшы газэту — перадай другому.

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯЎСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22